


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 7 (44) ЛІСТАПАД 2005 г.

## ВЕСТКІ

21 кастрычніка, у пятніцу, у памяшканні выставачнай залы Музея традыцыйнай культуры адбылося адкрыццё выставы "Браслаўскія замалёўкі". Аўтары выставы – тры творчыя асобы: фатограф Юры Палуцкі, мастакі Алесь Сураў і Вацлаў Рамашка. Спалучэнне ў адной выставе прац мастакоў і фатографа даволі незвычайная з'ява. На сумесны праект аўтараў падштурхнула асабістае сяброўства і асаблівае стаўленне да прыгожых краявідаў Браслаўшчыны. Юры Палуцкі – да нядаўняга часу жыхар Горадні – на стала перабраўся ў Браслаў, цяпер узначальвае харчовы камбінат, але знаходзіць час і для творчасці. Браслаўшчына – адно з месцаў сустрэчы трох сяброў. Працы, зробленыя пад уздзеяннем прыроды азёрнага краю, мастакі В.Рамашка і А.Сураў ужо выстаўлялі ў Горадні. У Браславе ж да іх далучыўся Ю.Палуцкі.



У Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі пачала працаваць выстава, прысвечаная Бібліі. На выставе прадстаўлены выданні, прадстаўленыя Беларускім біблейскім таварыствам. Ініцыятарам выставы стаў пратэстанцкі пастар Ігар Сярко. На стэндах – розныя выданні Бібліі ў беларускім і рускім перакладах, літаратура для дзяцей, энцыклапедыі і энцыклапедычныя слоўнікі. Другая частка выставы падрыхтавана супрацоўнікамі музея. Яна прысвечана беларускаму першадрукару, асветніку, перакладчыку Бібліі Францыску Скарыне. Прадстаўлены тамы факсімільнага выдання Бібліі 1517 года і больш за 20 кніг, прысвечаных Скарыне, з бібліятэкі музейнага аб'яднання.

**Кастусь Шыдлоўскі**

Ёсць спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае пячаткі. Называецца яна сфрагістыка (ад грэцкага слова - пячатка), ці сігілаграфія (гэты тэрмін выводзіцца з латыні). Даследуюцца самі пячаткі ці матрыцы, іх адбіткі, правілы выкарыстання і г.д. Існуе вялікая разнастайнасць пячатак. У розныя часы іх ужывалі ўладары, магнаты, шляхта, установы і арганізацыі, прадстаўнікі прафесій.

# БРАСЛАЎСКІЯ ПЯЧАТКІ

Вылучаюцца пячаткі дзяржаў і дзяржаўных утварэнняў, гарадоў.

Пячаткі добра ілюструюць гісторыю таго ці іншага паселішча, сведчаць аб інтэнсіўнасці эканамічнага, грамадскага, культурнага, рэлігійнага жыцця, часам могуць падштурхнуць даследчыкаў да новых накірункаў пошукаў.

Музей ад часу заснавання вядзе мэтанакіраваны пошук пячатак, а таксама вуглавых штэмпеляў з імі звязаных, якія ўжываліся ў Браславе. Выяўлена звыш 50 адзінак пячатак і штэмпеляў XVII – першай паловы XX стст. Падаўляючая іх большасць – адбіткі на дакументах. У музейныя зборы трапіла таксама некалькі матрыц.

Браслаўскія пячаткі перыяду Полацкага княства (XI – пач. XIV стст.) і ранняга перыяду Вялікага княства Літоўскага (XIV – XV стст.) пакуль невядомыя. Адкрыцці могуць даць археалагічныя раскопкі Замкавай гары. Тут могуць быць знойдзены пломбы з адбіткамі пячатак, якія ўжываліся ў гандлі. Падобныя пломбы, праўда, пазнейшага часу знойдзены ў Друі. Пасля таго як Браслаў стаў цэнтрам павета тут стала ўжывацца павятовая пячатка, а таксама пячаткі земскага і гродскага судоў. У архівах даводзілася бачыць пячаткі браслаўскіх судоў XVI – XVII стст., аднак іх копіі з прычыны пэўных тэхнічных складанасцей не былі зроблены. У гэты час пячаткі маглі ўжываць таксама некаторыя браслаўскія ўраднікі, а таксама святары.



**Земская пячатка.1785 г.**

Самыя раннія адбіткі пячатак, якія зберагаюцца ў музейнай калекцыі датуюцца XVIII ст. На адным з дакументаў архіва Браслаўскай царквы захаваўся не вельмі выразны адбітак земскай пячаткі. У цэнтры змешчаны герб Вялікага княства Літоўскага "Пагоня", па кругу подпіс на польскай мове: "Земская пячатка Браслаўскага павета 1785 года". Рэканструкцыю адбітка выканаў мастак Валеры Зінкевіч. У працы



Павятовая пячатка. 1792 г.



Пячатка Браслаўскага магістрата. 1792 г.

О.Гедзмана "Гісторыя Браслаўскага павета" (Вільня, 1930) змешчаны адбіткі браслаўскай гродскай XVIII ст. і павятовай 1792 г. пячатак. Павятовая пячатка ўтрымлівае адлюстраванне герба "Пагоня", што ўвогуле характэрна для перыяду ВКЛ. У 1792 г. Браслаў атрымаў падцверджанне сваіх магдэбургскіх правоў, займеў свой уласны герб. Пра драматычныя абставіны, звязаныя з атрыманнем гарадскіх прывілеяў ужо неаднойчы пісалася. Час карыстання імі быў вельмі кароткім, аднак Браслаўскі магістрат паспеў вырабіць гарадскую пячатку. Ужывалася яна настолькі абмежаваны перыяд, што да гэтай пары невядомы ніводзін дакумент з яе адбіткам. Пячатка вядома толькі з выдання XIX ст. "Старажытная Польшча", пазней яна неаднойчы перадрукоўвалася. Пячатка змяшчае малюнкі Божага вока - герба Браслава і святога Хрыстафора – герба Вільні. Надпіс выкананы папольску": "Пячатка магістрата вольнага горада Рэчы Паспалітай Браслава 1792 года". У складзе Расійскай імперыі Браслаў перастаў быць цэнтрам павета. Установы перабраліся ў Відзы, аднак да 1836 г. павет захоўваў назву Браслаўскі. Першыя некалькі дзесяткаў гадоў на пячатках дазвалялася ўжываць герб "Пагоню", аднак у спалучэнні з расійскім арлом. Надпісы былі на польскай мове. Прыкладам можа быць пячатка Браслаўскага павятовага гродскага суда 1804 г.



Пячатка гродскага суда. 1804 г.

Даволі значная колькасць пячатак і вуглавых штампаў, звязаных з гісторыяй Браслава, вядома з перыяду паловы XIX ст. – пач. XX стст. Як валасны цэнтр, Браслаў стаў месцам размяшчэння валаснога праўлення, суда, кватэр некаторых чыноўнікаў. З другой паловы XIX ст. тут сталі дзейнічаць некаторыя дзяржаўныя ўстановы – лячэбніца, вучылішчы, паштоватэлеграфнае аддзяленне, ашчадная каса, грамадскія арганізацыі – царкоўнае брацтва, пажарная дружына.

Каштоўнымі экспанатамі гэтага перыяду з'яўляюцца арыгінал службовай пячаткі славутага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута. У музей матрыцу перадаў Г.Швец. Яшчэ адзін арыгінал пячаткі перадаў у музей П.Агейчык. Гэта пячатка сельскага старшыні Браслаўскай грамады дзяржаўных сялян. Такая структура існавала ў першай палове XIX ст. Матрыца знойдзена ў наваколлі вострава Манастыр. На многіх пячатках XIX – пач. XX стст. прысутнічаюць імперскія сімвалы – двухглавы арол, карона, царскі герб Новааляксандраўска. У рэвалюцыйны перыяд гэта сімволіка знікае. Часова ўжываліся старыя пячаткі, у якіх зрэзаны арол, на штэмпелях ад рукі ўносіліся дадатковыя звесткі.




Пячатка сельскага старшыні. Сярэдзіна XIX ст.

Захавалася некалькі пячатак і вуглавых штэмпеляўсавецкіх устаноў 1918-19 гг.: Новааляксандраўскага павятовага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які дзейнічаў у Браславе і неўзабаве быў перайменаваны ў Браслаўскі, таксама Браслаўскага выканаўчага камітэта савета рабочых іселянскіх дэпутатаў, які дзейнічаў у Браславе, а потым перабраўся ў Друю, пакінуўшы сваю назву, Браслаўскага павятовага ваеннага камісарыята і некаторыя іншыя.

Вялікай колькасцю матэрыяла вызначаецца перыяд 1919-39 гг., калі Браслаўшчына знаходзілася ў складзе Польшчы. Браслаў быў цэнтрам павета і тут дзейнічала шмат дзяржаўных устаноў, прыватных прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый. Толькі грамадскіх арганізацый існавала некалькі дзесяткаў. Большасць пячатак ужывалася з гербам дзяржавы – арлом.

Пячаткі савецкіх арганізацый 1939-41 гг. у калекцыі прадстаўлены некалькімі асобнікамі. У асноўным іх упрыгожваў герб БССР, для подпісаў выкарыстоўвалася беларуская і руская мовы.

У часы акупацыі цывільныя ўстановы Браслава карысталіся пячаткамі, надпісы на якіх зроблены на беларускай, ці нямецкай і беларускай. Пячатак гэтага часу выяўлена не шмат.

Пасляваенныя пячаткі Браслава – гэта тэма асобнай размовы.




Пячатка браслаўскага лекара. Канец XIX - пач. XX стст.

## ПЯЧАТКІ І ШТЭМПЕЛІ ПЕРЫЯДУ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ






1. Вуглавы штэмпель Браслаўскага сельскага ўпраўлення і пячатка старшыні Браслаўскай сельскай грамады. Сярэдзіна XIX ст. Да адмены прыгоннага права сяляне Браслава і наваколля належалі дзяржаве.






2. Вуглавы штэмпель і пячатка прыстава 3-га стана, службовая кватэра якога размяшчалася ў Браславе. Канец XIX ст. Прыстаў – паліцэйскі чын, а стан – акруга, якая ўключала некалькі валасцей.




3. Вуглавы штэмпель Браслаўскай мяшчанскай управы. Канец XIX ст. Управа здзяйсняла кіраванне асобнымі бакамі жыцця мястэчка.






4. Пячатка і штэмпель Браслаўскага паштова-тэлеграфнага аддзялення. Пач. XX ст.



5. Пячатка Браслаўскага касцёла. Сярэдзіна XIX ст.




6. Вуглавы штэмпель Браслаўскай пажарнай дружыны. У статуце дружыны праграф 4 адзначаў: “Дружине разрешается иметь печать с изображением его наименования”. Па архіўных дакументах бачна, што пячатку замяняў штэмпель.

## ПЯЧАТКІ І ШТЭМПЕЛІ ПЕРЫЯДУ РЭВАЛЮЦЫЙ

⇦

„Временное Правительство“
М. В. Д.
СМОЛЕНСКІЙ
ПОЧТОВО-ТЕЛЕГРАФНЫЙ ОКРУГЪ.
НАЧАЛЬНИКЪ
Браславской П.-Т. Конт.
~~Почтово-Телеграфнаго Отдѣленія~~
Мая 17 дня 1917 г.
№
Браслав. Ковенской губ.

1. Вуглавы штэмпель Браслаўскай паштова-тэлеграфнай канторы. 1917 г. Улада ўжо належыць часоваму ўраду, аб чым сведчыць надпіс ад рукі.

Браславский
Уездный Исполнительный
Комитет
Продовольственный
отдел
1919 г.

2. Вуглавы штэмпель Браслаўскага павятовага выканаўчага камітэта. Месца працы – г.Друя. 1919 г.





Принят на учет:

3. Дзве пячаткі Браслаўскага валаснога выканаўчага камітэта. Злева – савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў, справа – савета рабочых і беззямельных дэпутатаў. 1919 г.

## ПЯЧАТКІ ПОЛЬСКАГА ЧАСУ




1. Пячатка павятовага лекара. Гэтай пячаткай карыстаўся Ст.Нарбут. Пач. 1920-х гг.



2. Пячатка Браслаўскага лясніцтва. Пач. 1930-х гг.




3. Пячатка браслаўскага натарыуса Рамана Кухцінскага. 1930-я гг.




4. Пячатка браслаўскага каталіцкага дэкана. 1930-я гг.




5. Пячатка браслаўскага праваслаўнага святара. 1936 г.




6. Пячатка гродскага суда. 1932 г.




7. Пячатка бібліятэкі Браслаўскага паліцэйскага спартыўнага клуба "Дрывяты". 1930-я гг.




8. Пячатка бібліятэкі Браслаўскай гімназіі. 1930-я гг.




9. Пячатка мяшанага цэха хрысціянскіх рамеснікаў. 1930 г.




10. Пячатка Браслаўскага аддзела Саюза пажарнай ахо-вы. 1934 г.

## ПЯЧАТКІ 1940 - 1944 г.



1. Пячатка Браслаўскага райкама ЛКСМБ. 1940 г.



2. Пячатка Браслаўскай валасной управы. 1944 г.

**Кастусь Шыдлоўскі**

# Літоўцы на Браслаўшчыне

Паводле сучасных дадзеных на тэрыторыі Браслаўскага раёна пражывае менш за 1 % літоўцаў. Але так было не заўсёды. Яшчэ адносна нядаўна – напрыканцы XIX ст. літоўцы складалі пераважную большасць Опсаўскага наваколля. Расійскі даследчык-філолаг В.Камінскі адзначыў у пачатку XX ст., што каля Опсы "*белорусы усердно стараются говорить по-литовски, и те, которые объясняются на этом языке, скорее склонны признать себя коренными литовцами*". Шмат літоўцаў было ў ваколіцах Відзаў, Дрысвят. Літоўскія вёскі існавалі побач з Браславам (Адамянішкі, Бялусішкі, Усяны і іншыя). На Браслаўшчыне дзейнічалі розныя асветныя і культурніцкія арганізацыі літоўцаў. Аднак на працягу XIX – XX стст. адбываліся актыўная, часам прымусовая славянізацыя літоўскага насельніцтва. З пачатку 90-х гадоў XX ст. тыя, хто захаваў літоўскую свядомасць, спрабуюць працаваць у кірунку нацыянальнага адраджэння. У гэтым ім дапамагае Літва. Дзейнічае грамадскае а'яднанне літоўцаў "Рытас" - «Раніца» (налічвае 92 сяброў), працуюць 3 нядзельныя школы (у Пеліканах, Вайнюнах, Усянах).

Так склалася, што аб гісторыі літоўцаў Браслаўшчыны шырокаму чытачу амаль нічога не вядома. Няма звестак аб іх у грунтоўным выданні "Памяць". Асноўная прычына ў моўным бар'еры, бо літоўскія выданні, прысвечаныя Браслаўшчыне, архіўныя матэрыялы недаступ-ныя без перакладчыка (а такіх публікацый існуе шмат). Рабочая група кнігі "Памяць" звярнулася з просьбай напісаць пра літоўцаў Браслаўшчыны вядомага літоўскага географа, даследчыка Чэслава Кудабу, які паходзіў з суседняга Ігналінскага раёна. Была атрымана згода, аднак заўчасная смерць Ч.Кудабы перашкодзіла давесці справу да завяршэння. Цікавыя матэрыялы пра літоўцаў Браслаўшчыны прадставіў на канферэнцыі "Браслаўскія чытанні-2000" Казімір Гаршва. Яны былі ўключаны ў зборнік. Ён жа дапамагае збіраць матэрыял для гістарычнага зборніка, прысвечанага Опсе. Аднак падрыхтоўка зборніка да друку спынена з прычыны адсутнасці сродкаў.

У гэтым нумары "Павета" прапануем падборку матэрыялаў, звязаных з гісторыяй літоўцаў Браслаўшчыны.

# Опса

*Гісторыя мястэчка паводле кнігі Б.Квікліса "Наша Літва", выдадзенай у 1964 г. у Бостане (ЗША), пераклад Р.Крывяліса. Друкуецца са скарачэннямі.*

Мястэчка Опса размешчана на паўднёвым беразе Опсаўскага возера, пры дарозе Браслаў – Відзы. Наваколле тут вельмі маляўнічае, зіхацінь роўнядзь Опсаўскага і шэрагу меншых азёраў, на сялянскіх палетках нямала старажытных курганоў і гістарычных мясцін. Літоўскія вёскі, якія размешчаны між азёр, лясоў і польскіх маёнткаў, адрозніваюцца прыгожым літоўскім архітэктурным стылем. Прозвішчы жыхароў, нават тых, хто ўжо не размаўляе па-літоўску, нагадваюць аб старажытных каранях. Напрыклад, у в.Заборнікі ёсць некалькі гаспадароў з прозвішчам Крывель. Магчыма, гэта прозвішча паходзіць ад даўніх язычніцкіх жрацоў Крыві.

Упершыню Опса згадваецца ў загадзе караля Аляксандра ў 1500 г. Браслаўскі касцёл атрымаў дзесяціну ад розных земляў, у тым ліку і ад багацияў Опсы. У 1569 г. Опса належала да каралеўскіх сталовых уладанняў і з'яўлялася цэнтрам акругі. Згадваюцца наступныя опсаўскія старосты: М.Андрэй (1556 г.), Ю.Остык (у 1562 г. ён быў і браслаўскім старостам), І.Розен (1580 г.), Т.Рудаміна-Дусяцкі (1587-1594 гг.), Зяновіч (1633-1648 гг.). Апошняму ў час вайны з Масквой кароль Уладзіслаў IV пісаў: "*Опсаўскаму старосце паведамляецца, каб сабраў баяр для воінскай службы і пераправіў праз Дзвіну...*" У 1557 г. у Опсе было некалькі майстэрань па вырабу сетак. У 1676 г. Опса – уладанне Цеханавецкіх, якія мясцовую капліцуператварылі ў філіял Браслаўскай каталіцкай парафіі.

У палове XVIII ст. у наваколлі Чартарыйска варагавалі Струтынскія і Цеханавіцкія. Нягледзячы на канфлікт, Ядвіга Струтынская выйшла замуж за аднаго з Цеханавецкіх. Малады неўзабаве быў забіты сваякамі жонкі. На прывабную ўдаву звярнуў увагу сам кароль Станіслаў Аўгуст і паміж імі ўзнікла любоўная сувязь. Праз нейкі час на сцэне з'яўляецца італьянец Мануццы, праз катората кароль вырашыў пазбавіцца ад каханкі. У 1770 г. Мануццы атрымаў не толькі Ядвігу, але і Опсаўскае староства "*як падарунак за добрую службу*". Адчуваючы сваю моц, Мануццы стаў свавольнічаць і выклікаў хваляванні ў акрузе. Калі стары Опсаўскі касцёл спарахнеў, Ядвіга ў 1776 г. пабудавала новы, які згарэў у 1886 г. Опса не развівалася, нічым асаблівым не вылучалася і ніколі не прэтэндавала на статус горада. У 1890 г. тут было 17 сялянскіх і 2 яўрэйскія дамы і каля 130 жыхароў. У XVIII ст. у Опсе дзейнічала школа, у 1781 г. ў ёй займаўся 21 вучань.

Польска-літоўскае паўстанне супраць рускай акупацыі ў 1794 г. праявілася і ў наваколлі Опсы. Тут былі сканцэнтраваны буйныя аддзелы літоўскіх паўстанцаў. Расійскі генерал-маёр Герман у рапарце ад 12 чэрвеня 1794 г. генералу Рапніну згадвае пра складанасці ў раёне Опсы. Акрамя таго, паўстанцы пакінулі расіянам дзве бочкі атручанага віна, якое, аднак, непрыяцель выліў. Прыхільнікі незалежнасці Рэчы Паспалітай забівалі тых, хто так ці інакш сімпатызаваў расіянам. 13 мая 1794 г. у наваколлі Опсы адбываліся значныя сутычкі з расіянамі. Паўстанцы былі акружаны і каля 40 тысяч трапіла ў палон (*падзеі 1794 г. пададзены ў версіі, якая не адпавядае рэчаіснасці* – **Рэд.**).

Пасля смерці графа Мануццы ў 1829 г. Опса перайшла да Плятэраў. На рубяжы XIX – XX стст. Плятэры пабудавалі ў Опсе прыгожы палац. Пазней маёнтак быў падзелены на ўчасткі, а палац перададзены пад сельгасшколу. У 1928 годзе палова мястэчка была знішчана пажарам.


50

ПАРСКИРІСЬ III.

Апей Мейлепъ

§ 23.

51

**Старонкі «Краткага катэхізіса « (Вільня. 1865). Такія выданні на літоўскай мове кірылічным алфавітам не забараняліся ўладамі. Асобнік знойдзены непадалёку ад Опсы**

Пасля таго, як была арганізавана чыгуначная лінія Дукшты – Браслаў – Друя, у Опсе з'яўляецца станцыя, аднак мястэчка не вырасла.

Опса – адзін з самых аддаленых усходніх раёнаў, заселеных літоўцамі. Магчыма таму перад першай сусветнай вайной тут не з'яўляліся кніганошы і мясцовыя жыхары не ведалі аб кнігах і газетах, што выдаваліся ў Прусіі (*у Расіі дзейнічала забарона на літоўскія выданні* – **Рэд.**). Асіміляцыі літоўцаў опсаўскага рэгіёна актыўна спрыялі ўладальнікі маёнткаў і польскае духавенства.

21 лютага 1920 г. літоўскія войскі занялі гэту тэрыторыю, аднак неўзабаве адышлі. Цікава, што нацыянальны гонар літоўцаў у тутэйшых мясцінах абуджаўся яшчэ ў гады польскай акупацыі, хаця незалежная Літва была ў 50 км на захад. Літоўская самасвядомасць абуджалася дзякуючы дзецям сялян, якія наведвалі мясцовыя пачатковыя школы і рыхтаваліся да паступлення ў гімназіі Свянцян і Вільні. У час вакацый навучэнцы правозілі шмат літаратуры, якую ахвотна чыталі сваякі, суседзі, знаёмыя. У тыя часы не ўсе сяляне ўмелі чытаць і навучэнцы станавіліся сапраўднымі апосталамі асветы. З гістарычных прац яны даведваліся аб мінулым Літвы, пачалі аддзяляць сябе ад беларусаў і палякаў. Неўзабаве ў іх асяроддзі з'явіліся людзі, якія былі гатовы ахвяраваць усім дзеля працы на карысць свайго народа. Адным з літоўскіх патрыётаў быў Вацлавас Пятрошка. Польскія ўлады зняволілі яго на 15 гадоў. Літоўскія кнігі В.Пятрошка дастаўляў у Віленшчыну нават грузавікамі. Рызыкуючы жыццём, ён неаднойчы пераходзіў дэмаркацыйную лінію паміж Віленшчынай і Літвой. У камеры-адзіночцы яго неаднойчы збівалі да непрытомнасці, падоўгу не кармілі.

Праз 8 месяцаў ён знясілены выслухаў прысуд суда і знайшоў сілы заявіць: "Няхай жыве Літва са сталіцай Вільнюсам! Далоў акупацыйныя прадажныя суды! Далоў пачварную польскую шляхту, якая намі кіруе і нас судзіць! Далоў бандытаў-легіянераў!" Польская паліцыя адзначала: "Няма ніякай магчымасці сабраць забароненыя літоўскія кнігі і газеты. Іх вельмі многа разышлося між літоўцаў..."

З 5737 жыхароў Опсаўскай воласці ў 1872 г. больш за 60 % былі літоўцамі. Яны змагаліся за свае правы. Дзейнічала таварыства Св.Казіміра, аддзяленні іншых арганізацый, школа, чытальні. Літоўская моладзь у вёсках ставіла літоўскія спектаклі, арганізоўвала вечарыны, спявала літоўскія песні. Опсаўская школа іскавала нядоўга, але загартавала дух моладзі. У 1934 г. Опсаўскі суд судзіў 20 жыхароў вёсак Пабяржы і Пяткунішкі толькі за тое, што яны прадставілі ўладзе заяву, што сваіх дзяцей будуць вучыць толькі па-літоўску. Пяткунішкі асабліва вылучаліся літоўскай дзейнасцю. За гэта польская ўлада ўсяляк пераследавала вяскоўцаў. Пасля 1939 г. Опсе і наваколлю не давялося трапіць у склад Літвы.

Паводле дадзеных Акадэміі навук Літвы 1942 г. у Опсаўскай воласці 73,5 % назваў насельнічаў мелі літоўскае паходжанне.



**Літоўская школа ў Заборніках.**



**Сябры таварыства Св.Казіміра. Опса. 1930 г.**

***Ілюстрацыі з кнігі Ю.Кудзіркі. Аб кнізе** **чытайце на стар.7***

# Звесткі з гісторыі літоўцаў Браслаўшчыны XIX – XX стст.

* Актыўна падтрымліваў літоўскую мову і культуру пелікансі ксёндз А.Жэйміс-Жэймавічус (1854 – 1909 гг.).

* Вялікім аўтарытэтам сярод мясцовага насельніцтва карыстаўся ксёндз-літовец з Друкшяят Феліцыян Міхалоўскі, які працаваў у к.XIX – пач.XX стст. Арганізаваў у мястэчку секцыі народных промыслаў.

* Паводле літоўскіх крыніц у пачатку XX ст. у Опсаўскай парафіі 2/3 вернікаў размаўляла па-літоўску, у Пеліканскай – 1/3.

* У канцы XIX – пачатку XX стст. літоўская мова ўжывалася ў Відзскім, Браслаўскім, Опсаўскім, Пеліканскім касцёлах.

* У 1905 – 1911 гг. у Пеліканах дзейнічала літоўская школа, апошні год працавала нелегальна. У 1907 г. каля Браслава дзейнічалі 4 тайныя літоўскія школы.

* У гады першай сусветнай вайны ў Вільні былі арганізаваны літоўскія педагагічныя курсы. Выпускнікі курсаў працавалі і на Браслаўшчыне. Сярод іх: М.Туткунайтэ-Жэмайтэне, С.Малышкайтэ-Крывене.

* У перыяд 1919 – 1939 гг. дзейнічалі пачатковыя літоўскія школы ў Опсе, Заборніках, Пяткунішках, Пеліканах, Абалікштах. Некаторыя з іх былі нелегальнымі.

* У 1925 – 1936 гг. у 17 вёсках дзейнічалі аддзяленні грамадскіх арганізацый Св.Казіміра і "Рытас".

* У 1925 г. настаўніца С.Малышкайтэ-Крывелене была заключана ў Гарадзенскую вязніцу.

* У 1928 г. 3 жыхары в.Заборнікі былі зняволены за тое, што не пусцілі дзяцей у польскую школу, 8 сялян аштрафавалі.

* У міжваенны час адным з актыўных літоўскіх дзеячаў быў Петрас Сяргунас, жыхар в.Пяткунішкі. Шмат пісаў у літоўскі друк. У бібліятэцы АН Літвы ў Вільні захоўваюцца рукапісныя матэрыялы П.Сяргунаса. Пры капітальным рамонце былога будынка Опсаўскай плябаніі рабочыя знайшлі патрыятычныя літоўскія надпісы, зробленыя П.Сяргунасам на драўляных дэталях у 1928 г. Некалькі дэталяў перададзены ў Браслаўскі музей.

* У 1941 – 1944 гг. у Відзах працавала літоўская гімназія. У наваколлі Опсы для паступлення туды рыхтавалі дзяцей у неафіцыйных школах, размешчаных у сялянскіх хатах.

* У 1950 – 1980 гг. з асобных літоўскіх сем'яў Браслаўшчыны адпраўлялі дзяцей ў школы Літвы.

* У снежні 1993 г. пачала выходзіць газета літоўцаў Беларусі "Lietuvių godos". Амаль кожны нумар утрымліваў матэрыялы пра літоўцаў Браслаўшчыны.

* У 1992 – 1998 гг. у в.Вайнюнцы дзенічала літоўская чытальня.

* У 1994 г. пачалі працаваць тры літоўскія нядзельныя школы (Пеліканы, Белая, Мацелішкі).

* У 1998 г. арганізавана літоўскае таварыства "Рытас".

* У 2000 г. у зборніку "Браслаўскія чытанні-2000" змешчаны даклад даследчыка Казімераса Гаршвы "Літоўская мова ў этнагенезе Браслаўскага раёна".




* У 1997 г. выйшла кніга літоўскага даследчыка Юозаса Кудзіркі "Опса і Пеліканы. Літоўская культура." Матэрыялы для яе аўтар збіраў на працягу 1991 — 1994 гг., робячы запісы ад людзей сталага веку ў такіх вёсках як: Пеліканы, Адамянішкі, Заборнікі, Дварчаны, Наруці, Шалакундзі і інш. У працы падаюцца звесткі аб літоўскім насельніцтве рэгіёна, рэлігійных стасунках, народным дойлідстве, традыцыйнай кухні, святах, фальклоры. Змешчаны замалёўкі і звыш 30 фотаздымкаў, сярод якіх значная частка гістарычных. Каштоўныя групавыя здымкі сяброў розных літоўскіх грамадскіх арганізацый. У канцы кніжкі надрукаваны спіс літаратуры (25 пазіцый), дзе можна знайсці звесткі пра літоўцаў Браслаўшчыны. Кніга невялікая па аб'ёму і цалкам рэальна перакласці яе на беларускую мову. Шырокае кола чытачоў атрымала б магчымасць лепш азнаёміцца з гісторыяй, традыцыямі літоўцаў Браслаўшчыны, з якімі нас аб'ядноўвае адна зямля.

---

# ДАСЛЕДЧЫКІ ТАЯМНІЦ

Вітаўт Ермалёнак

Кожны год археолага-краязнаўчы гурток Мёрскага Дома дзіцячай творчасці праводзіць вялікую пошукавую дзейнасць, асабліва ў вясенне-летні перыяд. Не выключэннем з'явіўся і сёлетні год. Гурткоўцы вялі актыўную даследчую дзейнасць не толькі ў нашым раёне, але і на Міншчыне, Браслаўшчыне. Так, у Браслаўскім раёне прымалі ўдзел у міжнароднай экспедыцыі пад час раскопак гарадзішча жалезнага веку ля вёскі Рацюнкі. Працавалі разам з вучонымі са Швецыі, Галандыі, археолагамі гістфака БДУ. У гэтым жа раёне ля вёскі Завер'е "Арганаўты" адкрылі паселішча 15-16 ст. Рэдкай знаходкай для Беларусі з'явілася знаходка сярэднявечнай печы-каменкі, шматлікіх фрагментаў посуду таго часу, нажа, брускоў іншых прадметаў, якія раскрываюць нам невядомыя старонкі матэрыяльнага жыцця нашых продкаў у сярэднявеччы.

Але найбольш грунтоўна сябры гуртка рыхтаваліся да краязнаўчай вандроўкі па Мёрскаму раёну. Апошнія гады гэтыя экспедыцыі становяцца больш працяглыя і больш далёкія ад райцэнтра. На гэты раз мы выбралі маршрут, які павінен быў дасягнуць Цвеціна. Як заўсёды спачатку пачаўся збор інфармацыі аб маршруце пахода. Вывучаліся старыя карты і планы, дакументы, іншая літаратура пачынаючы з 16 ст. Вялікія спадзяванні былі ў нас на вядомага краязнаўцу і карэспандэнта раённай газеты В.Высоцкага, але, на жаль, ён нядаўна пакінуў Цвеціна, а па тэлефоне змог пераказаць нам толькі агульнавядомыя звесткі.

І вось надышоў дзень, калі прыгожым летнім ранкам рэйсавы аўтобус паімчаў нешматлікі, але загартаваны атрад даследчыкаў роднага краю да яшчэ нязведаных імі таямніц. Першы прыпынак на паўгадзіны – вёска Чарапы. Ёсць шмат меркаванняў аб паходжанні назвы гэтага паселішча. Адно аб тым, што насельніцтва гэтых мясцін вымерла пад час нейкай эпідэміі і таму знаходзілі на палі шмат касцей і чарапоў людзей. Сапраўды ў старой літаратуры ўзгадваецца тут курганны могільнік, але гэта звычайныя пахаванні нашых продкаў – язычнікаў у 10-13 ст. Найбольш слушнае меркаванне, што назва паходзіць ад прозвішча жыхароў. Здаўна тут пражывалі людзі з прозвішчам Чэрап. Са старажытных дакументаў гурткоўцы ведалі аб тым, што ў наваколлі Чарапоў былі шматлікія ўладанні славутага роду Святаполк-Мірскіх, а зусім нядаўна пабываўшая ў музеі СШ № 3 г.Мёры прынцэса Марыя Святаполк-Мірская з Лондана вельмі прасіла ўсюды шукаць звесткі аб сваіх продках. Ведаючы, што фальваркі Мірскіх былі ў Белавусах, Гірсяніках, Каханавічах, Лысена, Мальквічы, Млынарова, Петрыкава, Цікалава, Чэрапах, а маёнткі ў Галомысле і Шышках, то лагічна было знайсці тут і іх пахаванні. І сапраўды, на вясковых могілках у Чарапах мы адшукалі захаваўшыеся надгробкі Святаполк-Мірскіх. На жаль, самі магілы даўно ўжо былі знявечаны скарбашукальнікамі.

Ад Завуцця гурткоўцы вырашылі прайсці да Цвеціна пехатою, каб вызначыць магчымасць існавання ў рэчышчы р.Авуты археалагічных помнікаў. І, як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Не трапіўшы на патрэбную сцяжынку, добра паблудзілі, але затое натрапілі прама на паселішча бронзавага веку II тыс. да н.э., якое не было вядома вучоным. Трапіўшы на патрэбную дарогу, хутка былі ў Цвеціна. У вёсцы сустрэлі цікавых суразмоўцаў: Шамровіч Ганну Сяргееўну і яе маці Лідзію Лаўрэнцьеўну. Яны паведамілі шмат цікавага аб тутэйшых мясцінах. Нам было важна ўдакладніць звесткі аб уладальніках двара і маёнтка. Адзін з іх, па прозвішчу Аранскі, быў мастаком. Да нядаўняга часу захоўвалася яго карціна "Галінка бэзу". Пазней нам таксама стала вядома яшчэ адна яго праца "Ранняя зіма". Дзеці Аранскіх Ірэна, Яніна і Зыгмунд у пачатку 20-х гг. вучыліся ў Дзісенскай гімназіі. Адзін з гаспадароў другога маёнтка Цвеціна Рычард Матусевіч быў паслом у міжваеннай Польшчы. Апошнімі ўладальнікамі маёнтка Мазурына былі Зофія і Марыя Бесякірскія. Ганна Сяргееўна паказала і старыя панскія студні. Але асабліва юных краязнаўцаў зацікавіла ўзгадка аб старым могільніку на беразе р.Цвецінкі. Яшчэ стагоддзе назад, падчас апрацоўкі глебы там знаходзілі чалавечыя косці. Абследаванне "арганаўтамі" згаданага пагорка дазволіла выказаць меркаванне, што гэта маглі быць пахаванні ранняга сярэднявечча 14–15 стст. Падчас гутаркі нас зацікавіла паданне аб каменным крыжы, які быццам прыплыў па рацэ Цвецінка ў незапамятныя часы. Гэты крыж мы і адшукалі на вясковых могілках. Тэхніка апрацоўкі каменя і яго формы сведчаць аб ім, як аб самым раннім захаваўшымся помніку хрысціянства ў нашым краі.

Можна правесці аналогію са знакамітымі тураўскімі крыжамі, пра якія таксама існуе паданне, што яны прыплылі па Дняпры і Прыпяці з Візантыі.

З Цвеціна наш шлях быў да галоўнай мэты вандроўкі - гарадзішчаў ля вёскі Субачава. Мы даўно ведалі аб тым, што там была распрацоўка кар'ера, але вось чуткі былі розныя. Некаторыя казалі аб толькі частковым знішчэнні гарадзішчаў, другія – што яны знішчаны ўшчэнт. Абодва гарадзішчы былі вядомы вучоным, звесткі аб іх можна знайсці ў кнізе "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобл. Мн., 1985". Гурткоўцы, як заўсёды, выбралі шлях не па асфальтавай прамой дарозе, а па полі. Палявая дарога вывела нас не ў Субачава, а ў вёску Прасёлкавічы. Зацікавіў толькі асобна ляжачы надгробак з чырвонага граніту з надпісам аб пахаванні ў 1912 г. немаўляці Ігнатовіча. Бацька яго, святар Цвецінскай царквы, пахаваны ля самой царквы. Гутарка з Пугач (Скрыпка) Любоўю Андрыянаўнай дапамагла нам даведацца аб гісторыі гэтых мясцін. Цікавыя звесткі былі атрыманы аб панах Добашынскіх, Яны мелі прыгожы дом, шматлікія мураваныя пабудовы. Асабліва магутнымі былі скляпенні, дзе захоўваліся розныя прыпасы. Мураваная была і капліца. Усё было зруйнавана ў 50-я гады 20 ст. Зараз ад былых пабудоў застаўся толькі цагляны друз і некалькі векавых ліпаў. Абследаванне гурткоўцамі рэшткаў былой сядзібы дазволіла вызначыць, што яна была пабудавана ў другой пал. 19 ст., на месцы старой. Аб тым, што тут існаваў панскі двор яшчэ ў 16–17 стагоддзях сведчаць нашы знаходкі кафлі і керамікі таго часу.

Новыя звесткі мы атрымалі, сустрэўшыся з жыхаром Прасёлкавічаў Выгарным Леанідам Еўстаф'евічам. Мы даведаліся аб гісторыі навакольных мясцінах, аб панах Буйвідах, Пашкевічах, Добашынскіх.

Найбольш карысную інфармацыю мы атрымалі ад Якімовіча Сяргея Леанідавіча. Ён з малых гадоў цікавіўся старажытнасцямі, з дзяцінства шмат запомніў апавяданняў маці Ніны Фёдараўны (1908 г.н.). Ён намаляваў дакладны план знаходжання гарадзішча Субачава. Але і тут жа нас расчараваў, катэгарычна запэўніўшы – гарадзішча няма, яно ўшчэнт знішчана распрацоўкай кар'ера. Праўда тут жа і ўсцешыў: "Паглядзіце, хлопцы, пагоркі Грады, якія цягнуцца аж да Копцева. Магчыма, там вам і пашчасціць адкрыць яшчэ гарадзішчы". У доказ сваіх слоў ён прывёў прыклад, што на адным з ўзгоркаў знайшлі каменны малаток і шліфаваны камень, падобны на дыск. Праўда, сляды гэтых знаходак згубіліся, але ўсё роўна інфармацыя адразу ўзмацніла дух гурткоўцаў і стомленасць знікла. Наш суразмоўца ўвайшоў у гісторыю раёна тым, што па загаду Героя Сацыялістычнай Працы Кандрашова П.П. зруйнаваў Дрысенскі ўмацаваны лагер 1812 г. Як сказаў Якімовіч, ён ведаў што рабіў дрэнную справу, але супрацьстаяць загаду не мог. Не я, дык ўсё роўна іншыя меліяратары знішчылі б, такія былі часы. Ніхто на помнікі не звяртаў ўвагі.

(Заканчэнне ў наступным нумары)

*Дзякуючы Іанне Стэльмачонак, нашай землячцы, якая пасля заканчэння Варшаўскага ўніверсітэта настала засталася ў Польшчы, музей атрымаў некалькі копій публікацый пра Браслаў і Браслаўшчыну, змешчаных у даваеннай віленскай газеце "Слова". Прапануем адзін з матэрыялаў газеты, датаваны 29 верасня 1928 г. (пераклад з польскай мовы).*

**Браслаў.**

48-і гадзінны праліўны дождж яшчэ больш паглыбіў катастрафічны стан у сельскай гаспадарцы. Два тыдні несупынныя дажджы стрымлівалі дазраванне і збор яравога зерня і прыводзілі сялян да крытычных наступстваў. Але праліўны дождж з шалёным ветрам, які без перапынку ліў цэлую ноч з 24 на 25, цэлы дзень 25 і ноч з 25 на 26 (ці разам 48 гадзін) у адначассе знішчыў усе спадзяванні.

Цяпер няма ніякіх сумненняў, што насельніцтва Браслаўскага павета знаходзіцца на парозе катастрафічных наступстваў неўраджаю. 25 і 26 у Браславе працавала сельскагаспадарчая камісія мясцовага сойміку. Яна падрабязна разглядала наступствы бедства, якія чакаюць рэгіён і выпрацоўвала меры па іх прадухіленню. Адзін з сяброў камісіі паведаміў, што кожны, хто цікавіцца гаспадарчым жыццём Віленшчыны павінен памятаць дзве важнейшыя рысы прыроды Браслаўшчыны, якія вылучаюць рэгіён: глебы і клімат. Пераважаюць цяжкія гліністыя і сугліністыя грунты, клімат вызначаецца паўночным размяшчэннем Браслаўшчыны. У выніку – вегетацыйны перыяд на Браслаўшчыне на два тыдні даўжэйшы ад цэнтра краіны. Да гэтага трэба дадаць трохі большую колькасць ападкаў. Таму іншыя жыхары Віленшчыны, нават самых пясчаных тэрыторый, могуць сабе толькі ўявіць, як на сельскую гаспадарку Браслаўскага павета ўплывалі асаблівасці надвор'я бягучага году. Увосень мінулага году снег закрыў незамёрзлую зямлю ўжо 11 лістапада. Вясна выдалася мокрай і позняй. Сяляне былі вымушаны двойчы адсаджваць бульбу. Лета было халодным. Яго змяніла зноўку мокрая восень. Вось браслаўская карцінка.



Калі едзеш ад Дукштаў да Друі, ці па ўсёй даўжыні павета, то бачым зялёныя як рунь ячмень, авёс і лён, адмокшую бульбу, часам толькі ў квецені. Шмат хто з сялян збірае яравыя на зеляніну. Некаторыя вёскі, якія маюць агульную пашу, выпасваюць жывёлу на пасевах, каб зусім не змарнаваць тое, што вырасла.

Далучаю фотаздымак браслаўскіх дамоў, якія нагадваюць Венецыю – бо возера пасля праліўных дажджоў выйшла з берагоў.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЛЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)